*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 50(106) ◈ 16 снежня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**НА ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ РАЗГЛЕДЖАНЫ ПЫТАННІ: аб паляпшэнні ўмоў дзейнасці рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі з мэтай паскарэння работы па падрыхтоўцы праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, аб прысваенні ганаровых званняў «Заслужаны работнік культуры» і «Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь» і іншыя.**

***9 СНЕЖНЯ У ДЗЕНЬ СВЯТКАВАННЯ 101-ых УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЗНАГАРОДЗІЛА ГАНАРОВЫМІ ГРАМАТАМІ ГАЗЕТУ «НАША СЛОВА» І СУПРАЦОЎНІЦУ ІРЫНУ КРЭНЬ «за вялікі ўклад ва ўшанаванне памяці і прапаганду творчай спадчыны класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча».***

**ПРЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ НАВУКОВА-АСВЕТНЫМ ЦЭНТРЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ СТВОРАНА БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ УКРАІНІСТАЎ. Яе кіраўніком абрана кандыдат філалагічных навук Таццяна Кабржыцкая.**

***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РБ ГАЛАСАВАННЕМ ВЫРАШЫЎ, што на тэрыторыі краіны ў бліжэйшы час «свабодных эканамічных зон» не будзе.***

**У МЕНСКІМ ІНСТЫТУЦЕ ЗАМЕЖНЫХ МОЎ ПРАЦУЕ ДРУГАЯ, АРГАНІЗАВАНАЯ ПАСОЛЬСТВАМ ЗША, ВЫСТАВА «ЗЕРНЕ ЗМЕН», якая прысвечана 500-годдзю адкрыцця Амерыкі. Усе экспанаты прадстаўлены на беларускай мове.**

*МІНІСТРАМ ЭНЕРГЕТЫКІ ЛІТВЫ Л. АШМАНТАСАМ У МЕНСКУ ПАДПІСАНЫ ПРАТАКОЛ, па якім у снежні гэтага года Літва прадасць Беларусі 240 млн., а ў 1993 годзе — 4 млрд. кілават-гадзін электраэнергіі.*

*Рэспубліканская канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу»*

# ПРАБЛЕМЫ І ТЭНДЭНЦЫІ

19 і 20 лістапада ў Менску ў Акадэміі навук прайшла рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу». Пачалося выкананне шостага пункта пятага раздзела «Закона аб мовах»: «Акадэміі навук, Міністэрству народнай адукацыі сумесна з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Саюзам пісьменнікаў правесці шэраг навуковых канферэнцый па праблемах беларускага правапісу. На падставе рэкамендацый канферэнцый унесці прапанову па ўдакладненню правапісных норм».

Шмат людзей сабралася на ранішняе пасяджэнне першага дня, пераважалі настаўнікі. З прывітаннем выступіў Ніл Гілевіч. Ён нагадаў пра небяспеку знікнення нашай мовы з-за разладу ў правапісе і заклікаў усіх паяднацца ды хутчэй вырашыць набалелыя праблемы, каб беларуская мова спрыяла развіццю дзяржавы, каб мацавала яе аўтарытэт.

Міністр народнай адукацыі Віктар Гайсёнак паведаміў, што сёлета ў рэспубліцы 60 працэнтаў першакласнікаў пачалі вучыцца ў беларускамоўных класах. Таксама і трэць (25 тысяч) выхаванцаў дзіцячых садкоў выхоўваюцца ў беларускамоўных групах.

### *I. Праблемы мяккага знака*

Першым чытаў даклад «Праблемы ўдасканалення беларускага правапісу» дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, член-карэспандэнт АН Рэспублікі Беларусь Аляксандр Падлужны. Ён пачаў з самага актуальнага пытання — з мяккага знака — і паведаміў, што яшчэ Васіль Цяпінскі (у сярэдзіне XVI стагоддзя) спарадычна пазначаў гэтую асаблівасць нашай мовы. (У «Граматыцы» Б. Тарашкевіча яна набыла статус закона).

На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што адбылася ў Менску ў 1926 годзе, таксама шмат спрачаліся. «Прыхільнікі захавання мяккага знака абапіраліся на тое, што мяккасць *з, с, дз, ц* перад мяккімі зычнымі з'яўляецца спецыфічнай рысай беларускай фанетыкі... **Калі перастаць абазначаць мяккасць зычных на пісьме, то яна паступова страціцца».**

Правапісная камісія, створаная пасля канферэнцыі, у першай рэдакцыі праекта пастановы прапанавала поцілеглы варыянт. (Але мы ведаем, тады ўсё ж вырашылі не калечыць беларускую мову.) Пазней урад пастановай 1933 года ўвёў новы правапіс. Гэтая пастанова, як лічыць А. Падлужны, «не ўнесла нічога новага, бо іменна камісія 20-ых гадоў спынілася на неабазначэнні асіміляцыйнай мяккасці *з, с, дз, ц*».

### *II. Тэндэнцыя да страты*

Паводле меркавання А. Падлужнага, «праблема абазначэння асіміляцыйнай мяккасці не з'яўляецца такой простай, як яе лічаць многія зараз... хаця бы таму, што за 60 гадоў адбыліся такія змяненні ў нашай нацыянальнай мове, якія нельга не ўлічваць. Па-першае, з 1939 года тэрыторыя Беларусі павялічылася амаль у два разы. А гэта азначае, што беларускую мову засвойваюць і носьбіты тых гаворак, у якіх мяккасць зычных па прыпадабненню перад мяккімі зычнымі адсутні-

*(Працяг на с. 3).*

## ЗАХАВАЦЬ АДМЕТНАСЦЬ МОВЫ

### *(З пастановы навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу»)*

Прызнаючы, што Пастанова Савета Народных Камісараў «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» ад 26 жніўня 1933 года і дадаткі да гэтай Пастановы былі прыняты ва ўмовах узятага кіраўніцтвам рэспублікі курса на ліквідацыю нацыянальнай спецыфікі беларускай мовы і зліцця яе з рускай мовай і такім чынам не адлюстравалі многія характэрныя рысы беларускай мовы, удзельнікі канферэнцыі лічаць гэту Пастанову фактам палітычнага ўмяшання ў моўную палітыку.

— Канферэнцыя лічыць мэтазгодным унесці адпаведныя ўдакладненні ў сучасны правапіс на аснове «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», **выдадзеных у 1959 г.**

— Лічыць **неабходным** стварэнне правапіснай камісіі для распрацоўкі прапаноў па ўдакладненні правапісу, якая павінна падрыхтаваць **праект** удакладненняў. Да прыняцця ўдакладненага правапісу карыстацца правіламі 1959 года, не дапускаючы адхіленняў ад іх у афіцыйных выданнях і школьнай практыцы. Канферэнцыя заклікае грамадскасць рэспублікі да кансалідацыі ў адносінах правапісных норм.

— Канферэнцыя рашуча выказваецца супраць увядзення другой дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Беларусь.

# Беларускі гісторык—чалавек года



Нечаканую вестку атрымаў з Кембрыджа дацэнт кафедры паліталогіі Белдзяржуніверсітэта Вячаслаў Феліксавіч Шалькевіч. Кансультацыйным саветам Міжнароднага біялагічнага цэнтра ён названы Чалавекам года.

Прадмет навуковых даследаванняў Вячаслава Шалькевіча — грамадска-палітычная думка Беларусі ў мінулым стагоддзі. Вучонаму належыць звыш сотні прац — артыкулаў, брашур, кніг (дзве з іх прысвечаны нацыянальнаму герою Беларусі К. Каліноўскаму).

Зараз у Вячаслава Феліксавіча — новы этап творчай дзейнасці. Сёлета ў БДУ ўпершыню набрана група студэнтаў-паліталагаў. На Захадзе гэта прафесія лічыцца адной з самых прэстыжных. У нас тут робіцца толькі першыя крокі.

**На здымку: В. Ф. Шалькевіч з першакурснікамі — будучымі паліталагамі.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. Белінфарм.**

# ВЫСТУПАЕМ ЗА САПРАЎДНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

***(З заявы першага (устаноўчага) Сойму Згуртавання Беларускай Шляхты 1 лістапада 1992 г.)***

Устаноўчы Сойм заклікае нашчадкаў беларускай шляхты згуртавацца самім і разам з усімі **нацыянальна свядомымі** сіламі Беларусі мацаваць нашу Бацькаўшчыну палітычна і эканамічна адстойваць сапраўдную незалежнасць Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнасць яе беларускай мовы.

Згуртаванне Беларускай Шляхты (ЗБШ) — гэта добраахвотная навукова-культурная грамадская арганізацыя, якая дзейнічае згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і сваім статутам.

ЗБШ выступае за сапраўдную незалежнасць Беларусі і адзінадзяржаўнасць беларускай мовы.

ЗБШ — за кансалідацыю нацыі ў яе этнічных межах, дапамогу і падтрымку нашай дзяржаваю беларусаў і за межамі Рэспублікі Беларусь, за роўнасць і павагу, культурна-асветнае развіццё зямляцтваў усіх этнасаў Беларусі.

ЗБШ — за кансалідацыю розных сацыяльных груп насельніцтва Беларусі ў паўнапраўным і шырокім развіцці культуры, адукацыі, асветы на роднай мове.

ЗБШ — за пашырэнне грамадска-культурнага руху сярод розных групаў жыхароў Беларусі.

ЗБШ — за правы чалавека на незалежную юрыдычна-судовую абарону годнасці, гонару і жыцця асобы.

ЗБШ — за вольны доступ да карыстання нашымі нацыянальнымі архівамі.

ЗБШ — за шырокую прапаганду культурнай спадчыны народа Беларусі, за шляхетныя паводзіны і ўзаемаадносіны паміж суайчыннікамі ў штодзённым жыцці.

ЗБШ — за дапамогу ўсім, хто хоча вывучаць і спазнаць гісторыю і генеалогію сваіх продкаў як праяву спадчыннасці пакаленняў розных нацыянальнасцей і веравызнанняў.




## Беларуская школа ў Рызе

*Сёлета пры гарадской сярэдняй школе № 15 пачала працаваць нядзельная беларуская школа. Яна створана намаганнямі настаўніц Тамары Антонаўны Станкевіч, Таццяны Іванаўны Касухі, якія выкладаюць тут родную мову і літаратуру, і Вячкі Міхайлавіча Целеша — прафесійнага мастака, выкладчыка асноў гісторыі і культуры Беларусі (ён жа — загадчык нядзельнай школы).*

*Дзве групы дзяцей гэтай школы адначасова з'яўляюцца вучнямі Рыжскай беларускай мастацкай студыі «Вясёлка», створанай пры Доме прафсаюзаў Латвіі. Трэці год студыяй кіруе той жа Вячка Целеш.*

*Ад Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь паступіла першая дапамога школе — буквары і іншыя падручнікі, зроблена падпіска на беларускія газеты і часопісы.*

*Дарэчы, калі нехта захоча дапамагчы школе кніжкамі, то можа дасылаць на адрас:*

***Рижская средняя школа № 15,***
***Рижской белорусской воскресной школе,***
***ул. Виевалжа, д. 9.***
***г. Рига-50. LV-1050***

*Грашовыя ахвяраванні можна дасылаць на рахунак Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак»:*
*200700646 Латвіас банка.*
*Pardaugavas nodaļa. 310101509.*

## Гучыць дуда

**Менск стаў месцам правядзення Першага Балтыйскага дударскага фэсту — міжнароднага фальклорнага фестывалю дудароў. Выканаўцы і гурты прадстаўлялі шырокую геаграфію: Беларусь, Латвія, Літва, Эстонія, Паўночная Англія.**

**Тры вечары з 13-га па 15-ае лістапада Менскі Дом літаратара поўніўся чароўнымі гукамі дуды — старадаўняга, амаль зусім забытага інструмента. Хлопцы з менскага гурта «Неруш» паказалі беларускія гульні, танцы пад дуду. Латышскія народныя мелодыі на дудзе выканаў Марыс Янсанс, кіраўнік гурта «Аўры» з Рыгі. Цудоўнай музыкай сярэднявечнай Англіі зачараваў слухачоў Кевін Талбары, студэнт Натынгемскага універсітэта.**

**А калі загучала танцавальная музыка і першыя пары пусціліся ў скокі, то цяжка было ўтрымацца, каб не далучыцца да кола танцуючых. Свята скончылася, але запомніцца яно надоўга. Хочацца падзякаваць яго арганізатарам— «Выбранецкім шыхтам», Цэнтру этнакасмалогіі «Крыўя», навукова-вытворчай фірме «Ваўкалака». Дудары ў Менску развіталіся да Другога Балтыйскага фэсту.**

**Т. ТАНКЕВІЧ.**

## Адчынены кіёск ТБМ

Маладзечанскае аддзяленне ТБМ імя Ф. Скарыны вядзе ў горадзе не толькі значную работу па прапагандзе роднай мовы, але і распаўсюджвае сімволіку роднага краю, беларускую мастацкую літаратуру, перыядычныя выданні, кнігі па гісторыі і краязнаўству Беларусі, выданні беларускіх аўтараў з далёкага замежжа. Для гэтага на сродкі і па ініцыятыве аматараў роднага слова ў горадзе адчынены кніжны кіёск, які знаходзіцца на тэрыторы чыгуначнага вакзала. Тыя, хто адпраўляецца адсюль у дарогу або наведвае горад, могуць набыць у кіёску родную літаратуру, нацыянальную сімволіку Беларусі.

**М. КАПЫЛОВІЧ.**
г. Маладзечна.

## Кесарава — кесару...

***(Чаму духавенства расійскага праваслаўя імкнецца да палітыкі)***

Пытанне гэтае ўзнікла, калі я пачуў выступленне народнага дэпутата Вярхоўнага Савета РБ уладыкі Парфенюка на сесіі парламента, дзе ён намагаўся пераканаць дэпутатаў увесці другой дзяржаўнай мовай рускую.

12 чэрвеня мінулага года я прымаў удзел у пасяджэнні Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Там разглядалася пытанне аб самабытнасці Заходняга Палесся. Уладыка Парфянюк тады здзівіў многіх. Ён сказаў прыкладна так: «Отец мой с **Волыни**, украинец, а мать — с Дрогичинского района. Но я — православный, русский человек». Тады я спытаў яго: як гэта іншаземец можа стаць рускім толькі таму, што ён праваслаўны? Няўжо грэкі ці, напрыклад, балгары — праваслаўныя... з'яўляюцца рускімі?!

У 1991 годзе вылучылі кандыдатам у народныя дэпутаты пінскага святара Міхаіла. Выбаршчыкі прагаласавалі за бацюшку, але ён хутка адмовіўся ад дэпутацкага статуса. У друку айцец Міхаіл так сказаў аб сваёй адстаўцы: духоўнай асобе не можна пакідаць слова Божае, каб клапаціцца аб мірскіх справах...

Вядома, напрыклад, такое слова Хрыста: «Кесарава кесару, а Божае Богу».

Дык чаго ж нашыя праваслаўныя духоўнікі спяшаюцца змяшацца з мірам, чаго прагнуць улады?! Чаму праваслаўнае духавенства не імкнецца да слова Божага, не шануе месца святога, як гэта зрабіў наш пінскі святар, паважаны ў горадзе чалавек айцец Міхаіл?..

**Каленік УДАВІДЧЫК.**

Пінскі раён.

*Меркаванні*

***Да дзесятка філолагаў і гісторыкаў я звяртаўся з пытаннем: «Чаму адна частка чалавецтва піша злева направа, а другая — справа налева?» Ніхто мне нічога сказаць так і не змог. Бяру адзін з лепшых навучальных дапаможнікаў па гісторыі пісьма для ВНУ, выпушчаны нядаўна ў Менску. І там — ні слова. Праглядваю ў дапаможніку падрабязны спіс літаратуры, гартаю гэтую літаратуру — вынік той жа.***

●●●

# Хто ўлева, а хто — управа

Але праблема гэта, несумненна, існуе. Значыць, павінна быць адпаведная інфармацыя. І яна ёсць. Можа, у пэўнай ступені «незвычайная», экзатычная, але міма прайсці немагчыма. Назавём гісторыкаў, у каго гэта інфармацыя сустракаецца: араб Абуль-Газі, перс Магамед-Машэн, немцы Давід Штраус і Юстын Кернер, французы Жэбелен, Сент-Іў, Фарб д'Аліве, Эдуард Шурэ, Эрнэст Рэнан, англічанін Джордж Фрэзер. У адпаведнасці з тэарэтычнымі пасылкамі гэтых аўтараў пісьмо мае цесную сувязь з развіццём рэлігійнай свядомасці людзей. Адначасова характар пісьма можна тлумачыць асаблівасцямі размяшчэння той ці іншай этнічнай папуляцыі ў адносінах да полюсаў Зямлі.

Як жа выглядае гісторыя пісьма паводле меркаванняў пералічаных аўтараў. Неабходна заўважыць, што ўсе яны з'яўляюцца прадстаўнікамі эзатэрычных (утоеных, прызначаных выключна для вузкага кола паінфармаваных) вучэнняў аб чалавечым быцці.

Паводле дактрын эзатэрызму, кожны кантынент на працягу тысячагоддзяў развіваў свае флору і фаўну, свайго чалавека. Паўднёвы кантынент, які ўмоўна называюць Атлантыдай, быў калыскай першабытнай чырвонай расы. Афрыка — маці чорнай расы. Азія ж дала жыццё жоўтай расе. З лясоў Еўропы, якія некалі распасціраліся паміж Атлантычным акіянам і Міжземным морам, выйшла белая раса. З гэтых чатырох вялікіх рас паходзяць усе разнастайнасці чалавечага роду.

У папярэдніх цыклах развіцця насельніцтва Зямлі па чарзе панавалі чырвоная і чорная расы. Яны валодалі магутнымі цывілізацыямі, якія пакінулі сляды ў пабудовах і архітэктуры Мексікі, храмах Індыі і Егіпта. У цяперашні час пануе белая раса, і пачатак яе панавання можна аднесці на сем і восем тысяч гадоў назад.

Брахманізм (рэлігіі Старажытнай Індыі) сцвярджае, што цывілізацыя на нашай планеце пачалася пяцьдзесят тысяч год таму на паўднёвым кантыненце, дзе тады жыла чырвоная раса. Еўропа і частка Азіі знаходзіліся ў той час пад вадою. Паўднёвы кантынет апусціўся на дно. Адным словам, вялікі прыродны катаклізм знішчыў і расцерушыў яго на часткі. Некалькі палінезійскіх рас, а таксама частка жыхароў Амерыкі — вось усе рэшткі старажытнай чырвонай расы, якая калісьці валодала славутай і вялікай цывілізацыяй.

Панаванне чырвонай расы на Зямлі змяніла чорная раса. Вышэйшы яе тып можа быць прадстаўлены абісінцамі і нумібійцамі, якія захоўваюць характар эпохі росквіту расы. Чорныя жылі на поўдні Еўропы ў дагістарычны часы, але былі выцеснены адтуль белымі. Нават успамін аб іх бясследна знік з народнай памяці. Але ўсё ж незабыўны след застаўся ў вераваннях народаў. Так, у белых людзей д'ябал — чорнага колеру, а д'ябал чорных людзей — белага колеру.

Там, дзе белыя былі падпарадкаваны чарнаскурым, утварыліся семіцкія народы, а дзе белыя пакарылі чорных, утварыліся арыйскія цывілізацыі. Менавіта з гэтага пункту гледжання бачыцца цікавай і арыгінальнай розніца паміж спосабамі пісьма ў семітаў і арыйцаў. Вядома, што агульнадаступнае пісьмо распаўсюдзілася толькі са з'яўленнем фанетычнага пісьма ці мастацтва паказваць гукі слоў пры дапамозе літар. Адносна ж іерагліфічнага пісьма, ці мастацтва паказу прадметаў знакамі, скажам, што яно такое ж старажытнае, як і сама чалавечая цывілізацыя. У першабытнасці на пісьмо (прыналежнасць святароў) глядзелі як на нешта свяшчэннае, як на рэлігійную дзейнасць, як на боскае, калі хочаце, натхненне. Калі жрацы чорнай расы ў паўднёвым паўшар'і паказвалі на каменных слупах ці на скуры жывёл свае таямнічыя знакі, яны звычайна паварочваліся тварам да паўднёвага полюса, а рука іх накіроўвалася на ўсход — да Сонца. І таму яны пісалі справа налева.

Белыя святары пісаць навучыліся ў чорных жрацоў. Спачатку яны пісалі, як і апошнія. Але калі ў іх дастаткова развілася свядомасць аб уласным паходжанні, нацыянальнае пачуццё і расавы гонар, то яны вынайшлі свае ўласныя знакі, сталі пры пісьме паварочвацца да поўначы, да краіны продкаў, натуральна, накіроўваючы руку да ўсходу — да таго ж Сонца. Таму і напрамак іх літар — злева направа.

Семіцкі і арыйскія гуманітарныя вытокі — гэта тыя дзве магутныя плыні, якія дарылі нам усе нашы ідэі, паданні і рэлігіі, мастацтвы, навукі і філасофскія вучэнні. Кожны з іх утрымлівае ў сабе, здавалася б, супрацьлеглыя паняцці аб жыцці, але толькі з іх прымірэння і гарманічнага суіснавання можа нарадзіцца вялікая ісціна Зямлі.

**Яўген ГУЧОК.**

*(Працяг. Пачатак на с. 1).*

чае (Заходняе Палессе). На значнай тэрыторыі адбылося ацвярдзенне губных у пэўных пазіцыях, а таму звузілася і сфера асіміляцыйнай мяккасці. Па-другое, моцна ўзрасла колькасць гарадскога насельніцтва, якое доўгі час не карысталася беларускай мовай і практычна страціла мяккасць па прыпадабненню. Гэта аказала пэўны ўплыў і на тыя гаворкі, якім і зараз уласцівая мяккасць па прыпадабненню. Спарадычна пачалі сустракацца і тут выпадкі яе адсутнасці».

# ПРАБЛЕМЫ І ТЭНДЭНЦЫІ

А. Падлужны далей спаслаўся на канстатацыю рознымі даследчыкамі парушэнняў літаратурнага вымаўлення. Прыкладам, ён прывёў цытату з артыкула В. Чэкмана і Э. Смулковай (цяпер пані Эльжбета — пасол Польскай Рэспублікі ў Беларусі): «Ф. М. Янкоўскі ў працы «Беларускае літаратурнае вымаўленне» прымае за нарматыўнае змякчэнне прыназоўніка *з* перад *ль, нь*, напрыклад, *празь лес, зь Нінаю, безь людзей* і г. д. Такое дыялектнае вымаўленне на Беларусі магчымае, аднак не ўласціва літаратурнай мове». Далей яны адзначаюць: «З назіранняў вынікае, што многія з носьбітаў беларускай мовы вымаўляюць таксама цвёрдыя *з, с* у гэтай пазіцыі, напрыклад, *з берега, с півам*. Гэтыя аўтары сведчаць, што прыназоўнікі на *з* не змякчаюцца перад *й (без яды, праз яму, з ядою, з йайцом)*».

П. Векслер, англійскі даследчык гістарычнай фаналогіі беларускай мовы, абапіраючыся галоўным чынам на працы Ф. М. Янкоўскага, зазначае больш рашуча, што «дыспалаталізацыя (ацвярдзенне — А. П.) *сь, зь* перад мяккімі зычнымі (напрыклад, *зняць)*» павінна разглядацца «як непадпарадкаванне сучасным рэгулятарам літаратурнай мовы».

На падставе пералічаных фактаў парушэння ў наш час нормаў беларускага літаратурнага вымаўлення А. Падлужны робіць вывад: **«Усе гэтыя назіранні сведчаць: мілая нашаму сэрцу асіміляцыйная мяккасць мае тэндэнцыю да страты.** Гэтая тэндэнцыя дзейнічае даўно, з часу канчатковага фарміравання катэгорыі цвёрдых і мяккіх зычных, і ахоплівае ўсё большую колькасць гукаў і пазіцый *(конь — конскі, дзень — дня, верасень — верасня* і г. д.)».

(Як бачым, спраўдзіліся прадбачанні ўдзельнікаў канферэнцыі 1926 года: «Калі перастаць абазначаць мяккасць зычных на пісьме, то яна паступова страціцца».)

Гэта разумее і сам А. Падлужны. Пасля пададзенай вышэй высновы ён сказаў: «Безумоўна, увядзенне мяккага знака ўмацавала б асіміляцыйную мяккасць, дзякуючы павышэнню правільнасці чытання».

### III. «Але...

...у бядотным стане могуць аказацца тыя, хто піша». А. Падлужны пералічыў колькасць памылак «тых выданняў, якія спрабуюць увесці абазначэнне асіміляцыйнай мяккасці партызанскім спосабам».

Не абышоў А. Падлужны і праблему перадачы на пісьме прыпадабнення зычных (*барацьба* — вымаўляецца *барадзьба, касьба — казьба, казка — каска, сшытак — шшытак, лёгчык — лёччык...)* «Звычайна,— сказаў дакладчык,— спасылаюцца на тое, што пры навучанні на аснове існуючага правапісу засвойваецца няправільнае вымаўленне. Але ж тады трэба ўдасканальваць методыку навучання, а не правапіс. У прыватнасці, неабходна ў навучальным працэсе шырэй выкарыстоўваць, як гэта практыкуюць некаторыя вучоныя, фанетычны запіс (транскрыпцыю). Пісьмовай мове нельга навучыць, пакуль не будзе засвоена ў пэўным аб'ёме вусная мова, бо пісьмо з'яўляецца толькі прыблізным умоўным адлюстраваннем вуснай мовы». (А вуснай мове, як мы бачылі, яшчэ патрабуецца «правільнасць чытання». Зачараванае кола?)

Уяўляецца, што выйсце пазначыў Якуб Колас, словы якога працытаваў А. Падлужны: «Паслядоўнае правядзенне фанетычнага прынцыпу зрабіла б непатрэбным і самы правапіс. Але правесці дакладна гэты прынцып нельга, бо той правапіс, які будзе фанетычным для аднаго дыялекту мовы, можа не быць фанетычным для другога тае ж мовы. Датрымаць фанетычнага прынцыпу да канца немагчыма. Немагчыма гэта ўжо дзеля таго, што няма такой азбукі на свеце, каб можна было дакладна перадаць на пісьме ўсе гукі нашай мовы».

### IV. Тэндэнцыя да страты мае сваю тактыку

«Кансерватызм у правапісе значна лепшы, чым частыя рэформы,— працягваў А. Падлужны.— Таму ці не больш правільна было б пабіць такія ўдасканаленні, якія найменш разбураюць ужо існуючую традыцыю. Найменш была б парушана традыцыя і спрошчаны правапіс, калі правесці далейшае абмежаванне абазначэння на пісьме пры дапамозе мяккага знака мяккасці па прыпадабненню. Паколькі цяперашняе правіла патрабуе перадаваць яе толькі ў выпадках, калі мяккасць зычных захоўваецца ў незалежнай пазіцыі (пішацца *пісьме*, бо мяккасць *с* захоўваецца і ў форме *пісьмо, ледзьве*, бо *ледзь* і г. д.), то магчыма і ў гэтых выпадках не пісаць мяккі знак, г. зн. пісаць: *пісменнік, Кузме, цмяны, ледзве* пры захаванні напісанняў *пісьмо, Кузьма, цьма, ледзь*... Правіла ў такім выпадку сапраўды было б вельмі лёгкім: мяккасць зычных перад мяккімі зычнымі не абазначаецца на пісьме. Гэта адступленне ад марфалагічнага прынцыпу напісання зычных, але тэарэтычна яно цалкам апраўдана».

### V. Правапіс не і без, і ды й

Развагі пра напісанне *не* і *без* А. Падлужны пачаў цытатай з Тарашкевічавай «Граматыкі»: «Словы *не* і *без* не маюць свайго націску і лічацца складамі таго слова, перад якім стаяць. Дзеля гэтага часам пішацца *не, без*, часам *ня, бяз*, гледзячы на тое, у якім складзе перад націскам яны стаяць: *не хачу, не магу, не знайшоў; ня буду, ня ведаю, не шуміць; без вады, бяз хлеба*». Далей дакладчык сказаў, як гэтае пытанне вырашылася на канферэнцыі 1926 года: 14 чалавек правапіснай камісіі галасавалі за нязменнае напісанне *не* і *без*, калі яны пішуцца асобна, а 7 — супраць. З 1933 года *не* і *без* пішуцца нязменна. Такое напісанне «дазваляе ў вуснай мове карыстацца сваімі звычкамі: вымаўляць *ня, ні*, а можа і нешта сярэдняе. Калі ж навязаць толькі *ня*, то для шмат каго гэта не будзе натуральным». А. Падлужны спасылаўся і на тое, што «не так проста вызначыць, у якім складзе перад націскам знаходзіцца *не, без*», і на тое, што ёсць і «матэматычны тэрмін — адмаўленне: *не х, не а...*»

*Замест апанента. «Аканне ўласціва ўсім гаворкам Беларусі, апрача гаворак паўднёвай часткі Брэсцкай і паўднёва-заходняй часткі Гомельскай абласцей. Аканне — характэрная фанетычная асаблівасць беларускай літаратурнай мовы». «Яканне ўласціва большасці акаючых гаворак Беларусі». (А тое ж аканне, як лічыць вядомы лінгвіст Ф. П. Філін, узнікла ў VII ці VIII стагоддзі.)*

Закрануў А. Падлужны і праблему напісання *і* ды *й*. «Аналіз тэксту «Граматыкі» Б. Тарашкевіча паказаў, што злучнік *і* толькі ў адзінкавых выпадках перадаецца праз *й*. Літара *й* пішацца практычна рэгулярна толькі тады, калі *і* з'яўляецца ўзмацняльнай часціцай: *ды й сам, а то й дзядзька;* частае напісанне *й* у розных формах дзеяслова *ісці*, а таксама ў словах, якія вядомы формы і без пачатковага *і* (тыпу: *іграць, Ігнат*). Такое напісанне ў прынцыпе адпавядае чаргаванню *і — й* і ў народных гаворках. Некаторыя ж цяперашнія выданні даводзяць справу да абсурду. Так, у № 1 «Бярозкі» за гэты год чытаем *за йм, за йх* і г. д.»

**Замест апанента. Дыялектолагі лічаць: «Беларускім гаворкам уласцівы і пратэтычны [й], які вымаўляецца перад націскным [і]: йіскры, Йірка, йіхні. Ён надзвычай устойлівы і можа захоўвацца пры страце [і]:** *на йгрышча, на Йвана Купалу, на йголцы*».

А наогул, дакладчык слушна зазначыў: «Здаецца, што і ў варыянце Б. Тарашкевіча, і ў сучасным можна сфармуляваць правіла, якое б дазваляла ў гэтым выпадку варыянтнае напісанне ў абмежаваных выпадках».

У заключнай частцы даклада А. Падлужны згадаў і праблему правапісу пазычаных слоў. Складаная гэта праблема. Успрымаем жа мы нармальна словы *клямка, пляц, лямпа*, а *Лёндан, кляса, парлямант* — як чужое, вычварнае вымаўленне. Дакладчык зазначыў шлях вырашэння: «у слоўнікавым парадку, хоць асобных момантаў, як быццам, паддаюцца ўпарадкаванню, што пацвердзілі прапановы В. Вячоркі на правапіснай камісіі ТБМ».

### VI. Пасяджэнне працягвалася

Наступным выступіў Сяргей Запрудскі, сакратар правапіснай камісіі ТБМ імя Ф. Скарыны. Ён пазнаёміў удзельнікаў канферэнцыі з вынікамі работы гэтай камісіі, у складзе якой працавалі: старшыня камісіі Генадзь Цыхун — загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства АН РБ; сябры камісіі (пералік паводле ўдзелу ў пасяджэннях) Вінцук Вячорка — выкладчык беларускага гуманітарнага ліцэя, Ала Сакалоўская — загадчык кафедры беларускай мовы і нацыянальнай культуры Інстытута замежных моў, Марына Лычкоўская — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН РБ, Аляксандр Падлужны — дырэктар Інстытута мовазнаўства АН РБ, Алесь Яскевіч — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН РБ, Зміцер Санько — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка», Сяргей Санько — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі АН РБ, Сцяпан Нефідовіч — завуч Любанскай сярэдняй школы Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці, Янка Войніч — навуковы супрацоўнік нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

Камісія рыхтавала не папраўкі да дзейснага правапіснага зводу, не асобныя змены яго, а поўны арфаграфічны кодэкс, у сувязі з чым імкнулася вызначыць асноўныя заканамернасці беларускай правапіснай думкі апошніх дзесяцігоддзяў, спасцігнуць яе дынаміку, тэндэнцыі развіцця мовы.

На першым этапе дзейнасці камісія вызначыла правапісныя заканамернасці спрадвечнай лексікі, а пасля разглядала і пазычаныя словы.

### VII. Што рабіла камісія ТБМ

Абмеркаваны шэраг праектаў правілаў, якія маюць дачыненне да наступных моўных з'яў:

1. Асіміляцыя паводле мяккасці *(смех — сьмех, з зямлі — зь зямлі)*.

Былі прапанаваны 2 падыходы. Першы: асімілятыўнае змякчэнне мае быць адлюстравана на пісьме; другі: напісанне «ь» абмяжоўваецца і ў тых выпадках, дзе ён сёння пішацца.

Магчымасць першага грунтуецца на:

а) фанетычным прынцыпе — вядучым у нашай мове;

б) адпаведнасці прынцыпу міжмоўнай дыферэнцыяцыі (фанетычныя з'явы, якія адрозніваюць нашу мову ад суседніх, маюць быць адлюстраваны на пісьме спецыяльнымі арфаграмамі);

в) асіміляцыйных змякчэннях — адной з самых яркіх рыс фанетычнага ладу беларускай мовы;

г) лёгкім засваенні вучнямі правіла пазначэння асіміляцыйнага змякчэння зычных;

д) традыцыйнасці адлюстравання асіміляцыйнага змякчэння на пісьме, а таксама і на некаторых іншых пакажчыках.

Ёсць і аргументы супраць. Асноўныя з іх:

а) у сучасным нашым правапісе для зычных прыняты марфалагічны прынцып;

б) асіміляцыя зычных па мяккасці не ёсць асаблівая рыса беларускай фанетыкі;

в) увядзенне «ь» ускладніць пісьмо для носьбітаў некаторых гаворак;

г) правіла будзе складаным;

д) тэндэнцыя да ацвярдзення — заканамерная;

е) фанетычны прынцып не спрыяе кансалідацыі розных гаворак.

Большасць сяброў камісіі схіляецца да неабходнасці пазначаць мяккасць на пісьме.

2. Сцяжэнне зычных гукаў і асіміляцыя паводле свісцячасці *(чэшскі — чэскі, таджыкскі — таджыцкі)*.

Як вядома, у зводзе 1959 года правапіс спалучэнняў зычных выкладзены вельмі разгорнута. Камісія імкнулася спрасціць сучаснае груваснае правіла. былі прапанаваны 2 праекты: адлюстравання ці не адлюстравання асіміляцыі па свісцячасці. Абодва праекты схіляліся да пашырэння фанетычнага падыходу.

Тут укладальнікі праектаў аказаліся нязгоднымі з вынікамі анкеты, што праводзіла ТБМ, паводле якой 50,7 % удзельнікаў анкетавання аддаюць перавагу правілу ў яго сучасным выглядзе і толькі 45 % выказваюцца за напісанні *чэскі, добруцкі, сурацкі* без *ш* і *ж*. Разыходжанні ў праектах былі і ў тым, ці трэба захоўваць *ш* перад постфіксам *-ся* зваротных дзеясловаў, як пазначаць на пісьме спалучэнне *дс* (перадаваць яго праз *дз, дс* ці *ц*).

3. Асіміляцыя паводле шыпячасці *(перапісчык — перапішчык; лётчык — лёччык)*.

Разглядаліся 2 праекты правіла. Першы — захаванне сучаснага, заснаванага на марфалагічным прынцыпе, напісання. Другі: непрыставачныя [illegible] і *с* перад *ч* перадаюцца на пісьме праз *ш (перапішчык, перавошчык)*. (Паводле анкеты: *перабешчык* — 48,5 %, *перабежчык* — 4,8 %).

Сябры камісіі ўважліва разглядалі выпадкі напісання зычных перад свісцячымі і шыпячымі (*ц, дж, ш*). Правіла на спалучэнне зычных *з с* і *ч* атрымалася вельмі складаным, падрыхтаваныя праекты перарабляліся па два-тры разы, і згода ў шэрагу выпадкаў дасягнута не была. Тыя ж, хто сталі за захаванне сучаснага напісання, не падрыхтавалі альтэрнатыўнага праекта.

4. Аканне *(без будзьбы — бяз будзьбы, не возьмеш — ня возьмеш, восемсот — васямсот, пояс — поес)*.

Праблемы гэтай характэрнай моўнай з'явы абмяркоўваліся на 11 пасяджэннях (камісія збіралася 25 разоў).

Камісія разглядала таксама напісанне прыстаўных гукаў *(імкнуць — мкнуць, наогул — навогул)*, правапіс *і* ды *у* ў складовых і нескладовых *(бацька і сын — бацька й сын; Марыя Уласевіч — Марыя Ўласевіч)*. Аналізаваліся моўныя з'явы ў запазычаннях: аканне *(шніцэль — шніцаль, рэдактар — радактар)*; асіміляцыя паводле мяккасці *(прасьпект — праспект)*; дзеканне, цеканне *(эцюд — этуд, дызель — дзізель, камандзіроўка — камандыроўка)*. Вядома, такія складаныя праблемы, сціплыя магчымасці камісіі, розныя падыходы яе сяброў да актуальных пытанняў правапісу не спрыялі яе працы, але грамадскасць атрымала вельмі каштоўны аналіз стану нашай мовы.

*(Працяг будзе).*

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

# Пяць гадоў прайшло з той сустрэчы

*Згадкі*



Гэты здымак, які захоўваўся ў маім хатнім архіве, зроблены 24 верасня 1987 года ля Лясной хаткі старэйшай беларускай пісьменніцы Зоські Верас.

Разам з настаўнікамі ўдалося паехаць і мне. Лявон Луцкевіч пазнаёміў нас з гістарычнымі мясцінамі старажытнай Вільні, а пасля паехалі ў госці да Зоські Верас. Яна жыла ў невялікай хатцы, якая знаходзілася за горадам у бярозавым гаі. Адчыніўшы дзверы, мы нібыта трапілі ў беларускі музей культуры і літаратуры. Карціны славутых мастакоў, фотаздымкі, кнігі, старая мэбля — усё тут, здавалася, дыхала нашым родным, беларускім.

У адным з пакойчыкаў хаткі нас сустракала Зоська Верас, якой тады было ўжо 95 гадоў. Пасля пачалася гутарка. Нас цікавіла ўсё, бо мы ведалі, што Людвіка Антонаўна шчыра сябравала з Максімам Багдановічам, а таксама са слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам. Дарэчы, у той дзень яна падаравала для літаратурнага музея сярэдняй школы № 7 г. Слоніма (які зараз не існуе) партрэт Г. Леўчыка, намаляваны беларускім мастаком з Вільні А. Аблажэем, паказвала фотаздымкі, пісьмы і паштоўкі Гальяша Леўчыка, шмат расказвала пра яго і Максіма Багдановіча. Тады нават цяжка было ўявіць, што побач — чалавек, лёс якога цесна і непарыўна звязаны з гісторыяй нашай нацыянальнай культуры.

На развітанне сфатаграфаваліся. Вяртаючыся ў Слонім, мы вырашылі праз пэўны час зноў завітаць да Зоські Верас. Але такой магчымасці ўжо не было: у 1990 годзе (ці не знарок?) нехта спаліў яе гістарычную хатку, а ў наступным не стала і гаспадыні.

Пяць гадоў прайшло з той сустрэчы, а здаецца, была яна толькі ўчора...

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА...

***Зоська Верас... Яна крыху не дажыла да свайго стагоддзя: пражыла 99 гадоў.***

У апошні раз мы бачыліся ў сакавіку 1991 года, калі савецкія танкі душылі свабоду ў Вільні. Так захацелася туды паехаць, — пустым цягніком, які спыняўся проста ў лесе, а за вокнамі ля скрыжаванняў ды пераездаў тырчэлі свежапастаўленыя палаткі «прибывших на усмирение». Вільня аказалася камуністам не па зубах...

Зоська Верас ужо не ўставала. Ляжала ў прасторным пакоі, трымала руку ў руцэ, — такое ўражанне, каб не рассыпаліся костачкі. Хто прыйшоў — не пазнавала: трэба было пісаць імя на аркушы паперы чорнага колеру фламастэрам і падносіць да вачэй... Болей угадвала інтуіцыяй. Бездакорна, нават без акуляраў, яна бачыла да 1988 года, потым вочы сталі зацягвацца катарактай. Але розум працаваў.

Яна пазнала мяне і адразу прыгадала, што патрэбна Данусі. Пачала апавядаць пра сваё дзяцінства, пра дзеда ў Гародні, пра сябра сваёй маладосці Максіма Багдановіча. Часам расказваю пра яго словамі Зоські Верас, і тады хто са слухачоў возьме ды спытае: «Ці не сваячка Вы ягоная?»

Божа, злітуйся з нас усіх! Тая сустрэча ў віленскай кватэры была апошняй. І я ведала, што болей мы не ўбачымся, расцалавала ёй рукі, твар, — яна ўжо стыгла, толькі палічкі былі гарачыя...

А бывала ж, натаміўшыся віленскімі вуліцамі, я ехала ў гэту прахалоду лесу, дзе, нібы ў казцы, жыла Зоська Верас — жывая легенда беларускага Адраджэння. Там перагасцявалі, відаць, усе віленскія беларусы. Маці ды настаўніцы везлі туды дзяцей, як на прычасце ў святое месца.

Лясная хатка... У Караткевіча ёсць казка «Лебядзіны скіт». Лясная хатка Зоські Верас была якраз такім скітам... Адразу перад ганкам рос куст белай шыпшыны, перасаджаны з сядзібы Ядвігіна Ш. Якія ружы цвілі там! А хрызантэмы! Іх бераглі на Дзяды, неслі на магілкі — на ўсю беларускую славу, што спачывае ў Вільні... Заўсёды ў садку нешта даспявала — і вясной, і восенню. І на ўсіх гэтага хапала. У 1988 годзе завезла пад Лясную хатку поўны аўтобус дзяцей — гурток «Вянок». Дзятва ў міг вока разбеглася па ранніх трускаўках... А з лесу прыходзілі казулі — з краю ім спецыяльна садзілі градку фасолі...

У памяці Зоські Верас захоўваліся ўсе падзеі, якія адбываліся ў яе жыцці, у жыцці Беларусі за цэлае стагоддзе. І калі не ўсё паспела яна запісаць, то расказала гасцям і карэспандэнтам вельмі шмат. Адкрыцці, сенсацыі, гучныя артыкулы апошніх гадоў пачыналіся тут. Здавалася нават, што сама духоўнасць Беларусі канцэнтравалася тут, у Лясной хатцы, раскладзеная аркуш за аркушам, перавязаная ў стосы папераў ружовымі матузкамі. Сваімі ўспамінамі, нават манерай трымацца і размаўляць, Людвіка Антонаўна Сівіцкая — Зоська Верас цудадзейна вяртала ўсіх, хто пераступаў яе парог, адтуль — з азвярэлае грызні, хлусні, марнатраўства, вяртала с ю д ы — у свет спрадвечных людскіх адносін. Усю Беларусь яна ўспрымала як родную сям'ю, а ўсіх, хто прыязджаў да Вільні і ў Лясную хатку, сустракала, як сваіх родных дзяцей, бо размаўлялі яны на роднай мове. Ніхто з гасцей ніколі не пачуў там ані слова фальшу, цынізму, раздражнення...

Божа, якая ж гэта была дабрыня, людскасць і чалавечнасць! Гаспадыня, дарэчы, ніколі не стамлялася, не зважаючы, што пад канец свайго жыцця ўжо не магла заснуць да чатырох гадзін раніцы. А ў дзесяць яе ўжо будзілі, ужо прыязджалі аднекуль... Так, я там начавала і слухала, як ходзіць яна па пакоі, нешта перакладае, хоць усё было ў ідэальным парадку. Яна ніколі не памылялася, дзе і ў якім куточку ляжаць, якою стужачкай перавязаны лісты Луцкевіча ці Гальяша Леўчыка... Да апошніх дзён Зоська Верас шчодра дзялілася з людзьмі багаццямі ўласнай душы. У звычайных народаў такія душы трапляюць у святыя. Але тут — народ «не звычайны». У звычайных народаў яе Лясная хатка пад Вільняй абавязкова засталася б мемарыяльным і дарагім, святым месцам. Тут яе... знішчыў пажар.

З болем думаю, што там, дзе быў сад Зоські Верас, з часам зробіцца сметнік. Куды лепш, каб усё проста зарасло лесам, здзічэла...

Данута
**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**

# ЛІЧЫЎ ЗА ГОНАР БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

***(Аб жыцці і дзейнасці Мар'яна Пецюкевіча)***

Мар'ян Пецюкевіч нарадзіўся 24 верасня 1904 года ў сям'і селяніна ў вёсцы Цяцеркі Браслаўскага павета Віленскай губерні. Жыхары гэтай мясціны па веравызнанні падзяляліся сябе на «палякаў» (каталікоў), «рускіх» (праваслаўных) і «маскалёў» (стараверaў). Аднак іх аб'ядноўвала беларуская мова, агульная народная культура, норавы і побыт.

«Асвету,— успамінаў М. Пецюкевіч,— я пачаў здабываць у сваёй роднай хаце ў цёткі Паўліны, якая зімой, прадучы кудзелю, вучыла мяне Богу маліцца па польскім малітоўніку, з якога многага не разумелі і «настаўніца» і «вучань». Гэтую навуку Мар'ян з цёплым гумарам называе «цётчынай акадэміяй», пасля якой у 1914 годзе бацькі паслалі яго ў рускае народнае вучылішча ў вёсцы Шаўляны, за 3-4 кіламетры ад роднай вёскі. Туды Мар'ян хадзіў да вясны наступнага года. Там навучыўся крыху чытаць і пісаць па-руску, пазнаёміўся з арыфметыкай. Гэта стала пачаткам далейшай саматужнай навукі. Сусветная вайна, далейшыя падзеі не спрыялі адукацыі.

Зразумела, у час ваенныя заварухі найбольш надзейнай была навука рамяства, бо тры з паловай дзесяціны гаспадаркі — замала, каб дзяліць на пяцярых сыноў. Мар'яна аддалі да дзеда Марціна Даргеля ў вёску Петкуны вучыцца на каваля. Але яго «не вабіла кавальства і крадком чытаў кнігі». Дзед Марцін неяк сказаў бацьку: «Ведаеш, Юдюк, з твайго Мар'яна каваль не атрымаецца, бо ён не цікавіцца, як і што робіцца ў кузні, а ўсё заглядае ў кніжку... Аддай яго вучыцца на арганіста ці на якога пісара». Рада была спакуслівай, і з 1917 года, дзякуючы беларускім ксяндзам Віктару Шутовічу і Адаму Станкевічу, Пецюкевіч знаёміцца з беларускай граматай і праблемамі беларускага жыцця па кнігах і газетах. Пазней вучыўся ў польскіх школах у маёнтку Зайнова і вёсцы Інава. Урэшце бацькі аддалі Мар'яна да кіраўніка школы ў мястэчку Еды, каб прыватна падрыхтаваць падлетка да паступлення ў польскую гімназію ў Дзісне. Паступіць туды Мар'яну не ўдалося, пра гэта ён успамінае: «На шчасце, «абрэзалі» мяне на ўступных экзаменах, што і запачаткавала новы, праўдзівы шлях у маім жыцці, праз гэта я пазбег апалячання». У 1922 годзе Мар'ян паступіў у чацвёрты клас Віленскай беларускай гімназіі, дзе скончыў сем класаў. Каб атрымаць атэстат сталасці, у 1927 годзе ён пераехаў у Радашковічы, хадзіў там у восьмы клас. Беларускія гімназіі не давалі права паступлення ў польскія ВНУ. Іх выпускнікі, каб здабыць вышэйшую адукацыю, нелегальна перабіраліся ў Чэхаславакію і Савецкі Саюз, дзе атрымлівалі дзяржаўныя стыпендыі. Мар'ян Пецюкевіч быў прыняты ў Карлаў універсітэт у Празе на гуманітарны факультэт. Аднак незаўважна перасекчы граніцу яму не ўдалося. Мар'яна пад канвоем адвезлі ў Вільню, здалі ў полк легіянераў. Пасля «рэкруцкага курса» накіравалі ў Цешынскае афіцэрскае вучылішча, якое скончыць не ўдалося: за распаўсюджанне беларускага друку Мар'яна Пецюкевіча адаслалі ў Вільню ў пяты полк легіянераў для адбыцця вайсковай службы пад наглядам. У той час да ўсяго беларускага польскія ўлады ставіліся, як да «бальшавіцкай прапаганды», а да кожнага свядомага беларуса, як да «падрыўнога элемента».

Пасля вяртання Мар'яна з войска сябры дапамаглі яму знайсці работу ў Вільні. Працуючы ў рэдакцыі газеты «Беларуская крыніца», займаўся на падрыхтоўчых курсах і восенню 1929 года здаў дзяржаўны экзамен на атэстат сталасці перад дзяржаўнай камісіяй Віленскай школьнай акругі. Тады ж паступіў на гістарычны факультэт Віленскага універсітэта. Спачатку вывучаў гісторыю, але, зачараваны лекцыямі па этналогіі і этнаграфіі прафесара Цэзары Бадуэн дэ Куртэнэ-Эрэнкрайцовай, перайшоў на гуманітарны факультэт, дзе вывучаў этнаграфію з этналогіяй у якасці галоўных прадметаў. Дадатковымі прадметамі былі археалогія, якую выкладаў выдатны археолаг прафесар Уладзімір Антаневіч, і славянская філалогія.

З 1935 года кафедру этналогіі і этнаграфіі ў Віленскім універсітэце ўзначаліў выдатны этнограф прафесар Казімір Машынскі. Пад яго кіраўніцтвам М. Пецюкевіч напісаў цікавую і арыгінальную працу «Прымітыўныя рысы ў матэрыяльнай культуры стараверaў у Браслаўскім павеце». У 1938 годзе атрымаў ступень магістра філасофіі па этнаграфіі і энталогіі.

Жывучы ў Вільні, М. Пецюкевіч удзельнічаў у рабоце беларускіх дэмакратычных арганізацый. З 1930 па 1935 год быў фактычным рэдактарам беларускага месячніка «Шляхам моладзі».

З 1935 года Пецюкевіч належаў да Беларускага навуковага таварыства ў Вільні і супрацоўнічаў з Беларускім музеем імя Івана Луцкевіча. З верасня 1939 года ён стаў першым рэдактарам беларускіх перадач па Віленскім радыё, актыўна працаваў у прафсаюзе працаўнікоў культуры Вільні. Неўзабаве быў прызначаны дырэктарам Беларускага музея імя І. Луцкевіча, які атрымаў назву Музей № 1 Акадэміі навук Літоўскай ССР.

У час вайны М. Пецюкевіч жыў у вёсцы Няменчыкан Віленскага павета, працаваў на гаспадарцы. У 1948—1949 гадах быў выбраны старшынёй мясцовага сельсавета.

З 27 сакавіка 1949 года сям'я Пецюкевічаў жыве на высылцы ў мясцовасці Ужур Краснаярскага краю, дзе Мар'ян некаторы час працуе загадчыкам пасекі. У 1957 годзе яны пераязджаюць у Польшчу. Дзякуючы клопатам прафесара Марыі Знамяроўскай-Прыфаровай і прафесара Казіміра Машынскага, Пецюкевіч атрымлівае працу ў Торуні, спачатку ў Акруговым музеі, потым — у Этнаграфічным музеі.

Справы беларускай народнай культуры на Беласточчыне былі заўсёды блізкімі сэрцу М. Пецюкевіча. Ён актыўна ўключыўся ў дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства, наладзіў супрацоўніцтва з «Нівай». Дыяпазон яго зацікаўленасці беларускай праблематыкай быў даволі шырокі, ён заўсёды адгукаўся на актуальныя справы беларускай нацыянальнай меншасці, быў адным з самых актыўных членаў навуковага гуртка БГКТ. Свае літаратурныя спробы — гумарыстычныя апавяданні — змяшчаў пад псеўданімам Дзед Марцін.

Асаблівай увагі заслугоўвае тое, што М. Пецюкевіч быў адным з першых, хто бачыў патрэбу стварэння Беларускага этнаграфічнага музея. Яго веды і вопыт былі вельмі прыдатнымі падчас арганізацыі Беларускага музея ў Белавежы. Дзякуючы яму, экспазіцыя ў музеі была належна падрыхтавана.

Памёр Мар'ян Пецюкевіч 13 чэрвеня 1983 года.

**Мікола ЛОБАЧ.**
г. Варшава.

# ПАЧАТКІ

Вочна-завочная школа

Вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

## ЗАНЯТКІ XII

## ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

**1. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы зацвярдзелы гук [ч]**

| | | |
|---|---|---|
| лясочак | шчодры | крочыць |
| дубочак | шчыры | бачыць |
| грыбочкі | шчуплы | сачыць |
| пянёчкі | штучны | мачыць |

**2. Прачытайце ўрыўкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», звярніце ўвагу на вымаўленне зычных і іх спалучэнняў.**

* * *

Я помню летнія часіны
І вас, грыбныя баравіны!
Ранюткі час. Нідзе нікога,
Між дрэў звіваецца дарога,
А па дарозе ты з кашом
У лес шыбуеш ціхачом,
Каб ашукаць жанок руплівых,
Бяссонных, вечна клапатлівых,
І ім на злосць, на зайздрасць тую
Набраць грыбоў капу, другую,
Пакуль агледзяцца яны,
Што там «карэньчыкі адны».

* * *

Шнуруюць бабы і дзяўчаты
І кантралююць мох узняты
І тыя кучачкі калюшак,
Дзе грыб схаваў свой капялюшык.
Другая нізенька прыгнецца,
Не ходзіць — поўзае вакол,
Рукою мацаючы дол,
Як бы на клад найшла, здаецца,
І так старанненька шукае:
І пад ядлоўчык заглядае,
Пад верасок і пад хваінку,
Разгорне кожную гарбінку
І моху купінку ўздзярэ —
Ну, ўсё, як ёсць, перабярэ.

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

*1.* **Пабудуйце паведамленні паводле наступных сітуацый:**

* Пачаўся грыбны сезон.
* Я ведаю грыбныя мясціны.
* Нам у грыбах пашанцавала.
* У нашым лесе растуць усякія ягады.
* У ягады мы збіраемся раніцай.
* На ўзлеску зацвілі краскі.
* Ваш букет вельмі прыгожы.

**2. Адкажыце на пытанні паводле тэксту І. Крука «Пакровы».**

— Калі святкуюць Пакровы?
— Якая гісторыя ўзнікнення гэтага свята?
— Што вы можаце расказаць пра станаўленне хрысціянскіх свят?
— Якія важныя падзеі адбываліся на Пакровы ў прыродзе?
— Пра якія прыкметы народнай метэаралогіі Вы можаце расказаць?
— Якія надзеі з прыходам Пакроваў мелі дзяўчаты?

## ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

**Прачытайце тэкст і перакажыце яго.**

### Падрыхтоўка да вяселля. Заручыны

Сярод усіх свят, якія ладзілі нашы продкі, найбольш маляўнічым, насычаным абрадамі было вяселле.

Вяселле — гэта сямейнае свята, якое ўключае цэлы комплекс рытуалаў, звязаных з заключэннем шлюбу. У вясельную ўрачыстасць уключалася амаль уся вёска.

Калі юнаку спаўнялася 18—20 гадоў, яго бацькі пачыналі шукаць працавітую і багатую дзяўчыну, якая магла б стаць нявесткай. Спрабавалі дазнацца пра пачуцці да яе хлопца, але яны не заўсёды ўлічваліся. Ініцыятыва заключэння шлюбу зыходзіла з боку хлопца. Сватанню іншы раз папярэднічала неафіцыйнае высвятленне, ці можна прыходзіць у сваты. Звычайна маці жаніха (хросная маці або цётка) ішла ў аўторак ці чацвер у хату аблюбаванай дзяўчыны і садзілася на лаву пад ручнік, што азначала мэту прыходу.

Потым адбывалася сватанне. У сваты да дзяўчыны ішлі ўдвухутрох: хросны бацька або дзядзька жаніха, яго бацька, іншы раз старэйшы брат. Прысутнасць самога жаніха была неабавязковай, хоць у пазнейшы час без маладога не абыходзіліся.

Адвярчоркам, каб ніхто не сурочыў, на месячнай поўні, каб было поўнае шчасце, ішлі ў хату да дзяўчыны і выдавалі сябе за падарожнікаў, купцоў альбо паляўнічых. Пыталіся, ці ёсць што прадаць. Наогул, гаварылі іншасказальна: «Прыйшлі па тую кветку, што цвіце зімой і ўлетку». Калі з адказаў гаспадароў вынікала, што перагаворы могуць адбыцца, старшы сват пачынаў невялікі пачастунак. Найбольш важным пытаннем сватання было абмеркаванне пасагу. Калі гэта пытанне вырашалася, клікалі дзяўчыну і пыталіся ў яе згоды. Яна чырванела і маўчала, а потым гаварыла: «Калі маўчу, значыць, хачу».

Пасля бацькі засватанай дзяўчыны або сама маладая ішлі да жаніха паглядзець, як ён жыве і ці ёсць на што ісці.

Праз адзін-два тыдні былі заручыны. Звычайна яны адбываліся вечарам за тыдзень да вяселля ў хаце маладой. Прыязджалі сват, жаніх і яго бацька, везлі з сабой хлеб, сыр, мёд і іншае. Аб прыездзе сватоў вёску ўведамлялі бомы, якія вешалі каню на шыю.

Пад'язджалі да хаты маладой, але іх ніхто не сустракаў. Брама была зачынена, часам нават былі зашчэпленыя і дзверы ў сенцы. «Купцы» або «паляўнічыя» прасіліся, каб іх пусцілі пагрэцца.

Ім адчынялі дзверы і высвятлялася, што іх чакалі, што радня маладой ў зборы. Пасля «спрэчак» сватоў садзілі за стол. Мэта заручын — прылюдная абвестка пра сватанне і згоду нявесты і яе бацькоў на шлюб.

Сваты садзіліся на пасланых на лаве ручніках, частаваліся. З найбольш істотных абрадаў трэба адзначыць злучэнне рук маладых і абмен пярсцёнкамі. У некаторых мясцінах старшага свата перавязвалі праз правае плячо ручніком, а на Лепельшчыне заручаная галасіла. У канцы заручын маладая дарыла жаніху хустачку, а ён даваў ёй грошай. Старшаму свату падавалі бутэльку жыта, абвязаную ручніком і поясам,— сімвал поўнай згоды на шлюб. Жыта сваты забіралі з сабою.

Напярэдадні вяселля была зборная субота. Заручаная склікала да сябе сяброваў віць вянок. Дзяўчаты збіраліся, садзіліся вакол стала. Са стужак, каляровай паперы, а часам і з жывых кветак вілі вянок, пры гэтым спявалі песні. У песнях апяваліся іх дзеянні: «Пачынаем вянок віць», «Падай, мама, іголку», «Ужо ж мы звілі вяночак». Музыка, якога запрашалі на гэты вечар, акампанаваў ім, а пасля іграў для моладзі танцы. Песні, якія спявалі на «вяночках», былі журботныя і адпавядалі настрою маладой і яе бацькоў.

Звіўшы вянок, яго прымяралі на маладую, а тая ў вянку кланялася і цалавалася з бацькамі, сяброўкамі і ўсімі прысутнымі. Пасля кожная дзяўчына прымярала той вянок, а ўсе разам скраналі з месца стол, ламалі іголкі, выкідалі за дзверы абрус, якім быў пакрыты стол, тым самым выказвалі магічнае жаданне хутчэй выйсці замуж. Асабліва ярка і ўрачыста праводзіліся «вяночкі» ў заходніх і паўночна-заходніх раёнах Беларусі. Там дзе-нідзе гэты абрад бытуе і цяпер.

Кавалерскі вечар спраўлялі ў хаце жаніха, ён запрашаў сваіх сяброў і дзяўчат.

Звычайна перад вяселлем, у суботу, пяклі каравай. Каравай — цэнтральная страва на вяселлі, пяклі яго спецыяльна запрошаныя жанчыны. Кожнае дзеянне з караваем суправаджалася песнямі. Караваем і песнямі пачыналі і канчалі вяселле.

Паводле А. ЛАКОТКІ і С. БАРЫСА.

## Новая тэма: *Назоўнік. Род, лік назоўнікаў. Асновы назоўнікаў. Назоўнікі жаночага роду адзіночнага ліку на -а, -я*

Назоўнік (имя существительное) — часціна мовы, якая абазначае прадмет і адказвае на пытанні х т о? ш т о? Напрыклад; *конь, горад, газета, неба.*

Як і ў расійскай мове, назоўнікі бываюць **мужчынскага** *(стол, дом, чалавек)*, **жаночага** *(рака, дарога, дзяўчына)* і **ніякага** *(поле, дрэва, здароўе)* роду.

Даволі часта род назоўнікаў у расійскай і беларускай мовах супадае, напрыклад: *дарога* (ж. р.), *лес* (м. р.), *возера* (н. р.).

Аднак ёсць выпадкі, калі адны і тыя ж назоўнікі ў беларускай і расійскай мовах маюць розны род.

Прачытайце і запомніце прапанаваныя прыклады.

| | |
|---|---|
| вялікі *боль* (м. р.) | шырокі *стэп* (м. р.) |
| балючы *мазоль* (м. р.) | бацькаў *шынель* (м. р.) |
| залаты *медаль* (м. р.) | спелы *яблык* (м. р.) |
| высокі *насып* (м. р.) | доўгі *цень* (м. р.) |
| горкі *палын* (м. р.) | белая *гусь* (ж. р.) |
| густы *пыл* (м. р.) | свежая *салата* (ж. р.) |
| прыгожы *роспіс* (м. р.) | зялёная *таполя* (ж. р.) |
| злы *сабака* (м. р.) | маладая *жырафа* (ж. р.) |

**Назоўнікі змяняюцца па ліках** (числах). **Яны маюць адзіночны лік** *(дуб, бяроза)* **і множны** *(дубы, бярозы)*.

Некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў **адзіночным** *(золата, святло, надвор'е)* або толькі ў **множным** *(сані, шахматы, акуляры)* ліку.

Назоўнікі *грудзі, дзверы, крупы, каноплі* ў беларускай мове ўжываюцца толькі ў форме **множнага** ліку (расійск. *грудь, дверь, крупа, конопля*), а назоўнікі *бяліла, чарніла* толькі ў форме **адзіночнага** ліку (расійск. эти *белила*, синие *чернила*).

АСНОВЫ НАЗОЎНІКАЎ

Усе назоўнікі падзяляюцца на групы з асновай:

**на цвёрды зычны:** *дом, краіна, акно;*
**на мяккі зычны:** *песня, поле;*
**на зацвярдзелы зычны:** *звер, пушча, мора;*
**на г, к, х:** *кніга, ручка, гарох.*

**Запомнім.** Назоўнікі аднаго і таго ж роду ў адным і тым жа склоне ў залежнасці ад асновы могуць мець розныя канчаткі.

**Канчаткі назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку (на** *-а, -я***) з асновай:**

| | **на цвёрды зычны** | **на мяккі зычны** | **на зацвярдзелы зычны** |
|---|---|---|---|
| што? хто? | сцян-*а* | Гал-*я* | Ір-*а* |
| чаму? каму? | сцян-*е* | Гал-*і* | Ір-*ы* |
| у (на) чым? пры кім? | сцян-*е* | Гал-*і* | Ір-*ы* |

| | **на г** | **на к** | **на х** |
|---|---|---|---|
| што? | кніг-*а* | рук-*а*, ручк-*а* | страх-*а* |
| чаму? | кніз-*е* | руц-*э*, ручц-*ы* | страс-*е* |
| у (на) чым? | кніз-*е* | руц-*э*, ручц-*ы* | страс-*е* |

У давальным і месным склонах (дательном и предложном падежах) назоўнікі жаночага роду адзіночнага ліку маюць аднолькавыя канчаткі:

*-е* — пры аснове назоўніка на **цвёрды зычны і г, х,** якія чаргуюцца з **з, с:** *вярб-е, наз-е, страс-е;* (на) *вярб-е,* (на) *наз-е,* (на) *страс-е;*

*-і* — пры аснове на **мяккі зычны:** *песн-і, Тан-і;* (у) *песн-і,* (пры) *Тані;*

*-ы* — пры аснове на **зацвярдзелы зычны** і на **к,** які чаргуецца з **ц:** *гар-ы, ручц-ы;* (на) *гар-ы,* (у) *ручц-ы.* **Заўвага:** пад націскам — канчатак *-э: руц-э, рац-э;* (у) *руц-э,* (на) *рац-э.*

**Запомнім.** У давальным і месным склонах зычныя *г, к, х* чаргуюцца з *з, ц, с:* дарога—дарозе, дачка—дачцэ, пацеха — пацесе.

## ЗАМАЦАВАННЕ НОВАЙ ТЭМЫ

1. З верша А. Грачанікава выпішыце назоўнікі і вызначце іх аснову.

* * *

Які сёння дзень і якая дата?
Для каго — будзень,
Для каго — свята.
Недзе — засуха.
Недзе — макрэча.
Аднаму — разлука.
Другому — сустрэча.
І ніхто на свеце
Разгадаць не ўмее —
Што яно здарыцца,
Як звечарэе.

2. Назоўнікі, якія запісаны ў дужках, пастаўце ў патрэбнай граматычнай форме: даць кнігу *(Каця)*, верабей на *(страха)*, стаяць каля *(дошка)*, пісаць на *(дошка)*, падыходзіць да *(вёска)*, жыць у *(вёска)*, сядзець каля *(рэчка)*, купацца ў *(рэчка)*, кніга ў *(дзяўчынка)*, далі кнігу *(дзяўчынка)*, паставіць вазон на *(падлога)*.

## РАЗВІЦЦЁ ГУТАРКОВАЙ МОВЫ

***Свойскія жывёлы, птушкі***

кот — кот
кошка — кошка
котёнок — кацяня, кацянё
собака — сабака (м. р.)
щенок — шчаня, шчанё
лошадь — конь
жеребёнок — жарабя, жарабё
корова — карова
телёнок — цяля, цялё

* * *

курица — курыца
петух — певень
цыплёнок — кураня, куранё
гусь — гусь (ж. р.)
гусак — гусак
гусёнок — гусяня, гусянё

* * *

корм — корм
подножный корм — паша
кормёжка — кармленне
—«— (лошадей в дороге) — папас
сено — сена
сеновал (сарай) — адрына
сенокос — сенакос, касьба
—«— (место косьбы) — сенажаць

**Заданні.** 1. Прачытайце словы, выпішыце тыя, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.

2. Прачытайце і запомніце загадкі, загадайце іх сваім знаёмым.

Пасярод двара стаіць капа, спераду віды, ззаду мятла. (Карова.)

Не араты, не каваль, не плотнік, а першы на вёсцы работнік. (Конь.)

Дзве галавы, дзве спіны, шэсць ног, адзін хвост. (Чалавек на кані.)

Чатыры дзяды назад барадамі. (Конскія капыты.)



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Дасканалым разуменнем унутранага свету чалавека, сцвярджэннем яго прыгажосці і непаўторнасці вызначаюцца творы аднаго з самых значных французскіх паэтаў XVIII стагоддзя Андрэ Шэнье (1762—1794), які яшчэ ў зусім маладым узросце стаў ахвярай якабінскага тэрору.

***Андрэ ШЭНЬЕ***

* * *

Я вінаваты сам: было стрымацца варта,
Бо колькі ж ёй магу так саступаць упарта?
Я хоць бы раз яе ды мусіў пакараць:
Прыйшла б няхай сама — чаму мне не счакаць?
Аж не. Забыў я зноў і крыкі, і праклёны,
Якімі быў я ўшчэнт учора знеслаўлёны.
І сёння раніцой, ва ўладзе дабрыні,
Я годнасці яе не зачаплю ані!
Зноў да яе лячу — без зла, без абурэння
І ёй, забыўшы ўсё, шукаю прабачэння —
Ды вінаваты я, выходзіць, у яе,
І адпускае ўжо яна грахі мае!
Выходзіць, то мае — капрызы, гнеў, пагрозы,
Няўдзячнасць, а яе — пакуты, боль ды слёзы.
Я каюся й забыў, што праўда тут мая,
І сціпла мне за ўсё прашу прабачыць я...

**Пераклад з французскай Зміцера КОЛАСА і Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

* * *

Я ведаю, калі, у цень загнаны спёкай,
Схаваешся цішком каля скалы высокай,
Дык можаш там спаткаць Наяду, што ідзе
Спяжынкай, каб свой стан абмыць там у вадзе.
Так доўга цікаваў за німфай я чароўнай,
Што на пярыне траў ляжала ў позе соннай,
Схіліўшы галаву на зграбны лакаток —
І на чало ёй споўз чаротавы вянок.

* * *

Быў я кволым дзіцём, ты — прывабнай паненкай,
Ты з усмешкай трымала мяне на каленках,
І няўзнак я праводзіў цнатлівай рукой
Па тваіх валасах і па шыйцы тваёй.
І калі-нікалі ты рукою пяшчотнай
Жартаўліва ўшчувала мой рух бесклапотны.
А як часта ты, ў коле каханкаў сваіх,
Цалавала мяне — тым бянтэжачы іх,
Даючы толькі мне ўсе дары прыгажосці!
Ды што здольны адчуць быў я ў гэткім узросце?
І ўздыхалі, зайздросцячы мне, пастухі:
«Колькі ласкі — вось так! Ах, шчаслівец які!»

**Пераклад з французскай Зміцера КОЛАСА.**

# У ГОНАР СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

У свой час газета «Беларускі калекцыянер» надрукавала артыкул «Маркі Слуцкага паўстання». Аўтар, у прыватнасці, адзначаў, што для сваіх патрэб паўстанцы Случчыны ў 1920 годзе выкарыстоўвалі старыя запасы розных расійскіх марак. Але на іх рабілася паддрукоўка лацінкай: «Надзвычайная Рада Случчыны». Гэта, на жаль, усё, што на сённяшні дзень вядома пра маркі Слуцкага паўстання.

Задзіночанне беларускай моладзі ў Амерыцы таксама выдала марку (яе выява — на здымку), прысвечаную Слуцкаму паўстанню. Але гэта ўжо юбілейная марка да саракавых угодкаў паўстання. Разам з маркай распаўсюджваўся наступны тэкст (дарэчы, цікавы выпадак у філатэліі): «Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчына — жывіце вы, каб Бацькаўшчына не памерла! Памажыце замацаваць гісторыю Слуцкага паўстання: злажыце ахвяру на выданне слуцкага альманаха; наклейвайце гэтыя маркі на лістах і пачках. Пашырайце праўду аб Беларусі».

Не трацім надзеі, што нашы чытачы дапамогуць узнавіць гісторыю выдання згаданых марак, якія прысвечаны Слуцкаму антыбальшавіцкаму паўстанню.

А. К.




## Вечарына ў вайскоўцаў

У Маладзечне 22 лістапада г. г. па ініцыятыве мясцовай філіі Беларускага згуртавання вайскоўцаў і гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ў вайсковым клубе была наладжана вечарына, прысвечаная ўгодкам Слуцкага паўстання. Перад салдатамі выступілі старшыня маладзечанскай рэгіянальнай рады ТБМ імя Ф. Скарыны настаўнік Л. Цімохін, падпалкоўнік У. Каваленка, маёр В. Костка, ад салдацкіх маціярок — Н. Сідарэнка. Добрай і паспяховай службы на карысць Бацькаўшчыны салдатам пажадалі таксама маладзечанскія скаўты. У другой частцы вечарыны вялікі канцэрт даў ансамбль «Спадчына».

М. К.

г. Маладзечна.

***Але!***

### Тутэйшыя яшчэ не звяліся

8 снежня 1992 года ў вячэрняй інфармацыйнай праграме «Панарама» карэспандэнтка Беларускага тэлебачання з захапленнем расказвала пра свята пад Барысавам з нагоды разгрому войска Напалеона ў 1812 годзе на Бярэзіне. Сапраўды, відовішча атрымалася маляўнічае. Падумалася: не пашкадаваў жа нехта сродкаў! Асаблівую радасць у карэспандэнткі выклікала тое, што, аказваецца, у тагачаснай расійскай арміі, куды загналі і беларусаў, салдаты не вызначаліся па нацыянальнасці. Так што продкі былі разумнейшыя за нас, з пафасам адзначыла беларуская журналістка і тут жа з'явілася ў кадры ў расійскім ківеры, радасна казыраючы. Па логіцы, спадарыні трэба было б следам апрануць і амуніцыю напалеонаўскага салдата, бо і на баку ж французскага імператара самахоць ці прымусам выступала нямала нашых продкаў. Але яна вырашыла за лепшае заставацца ў стане пераможцаў. Каб па іх, відаць, вызначыцца, як называцца самой? Бо, сапраўды, навошта пэўная нацыянальнасць, калі ў такім разе яна толькі замінае.

А. Л.

***Першая прэм'ера ў сезоне***

# ШТО ІДЗЕ Ў «ЛЯЛЬЦЫ»?

Напэўна, спектакль «Церам-церамок» (рэжысёр Віктар Клімчук) трапіць у скарбонку найбольш удалых работ Беларускага тэатра «Лялька».

Акцёрская ігра, нацыянальныя касцюмы (мастак Ганна Сідарава) і прафесійны пераклад (аўтар перакладу Марыя Баравік) надалі твору рускай драматургіі выразныя беларускія рысы. Папулярная казка Самуіла Маршака перажывае ў «Ляльцы» новае сцэнічнае нараджэнне: пластыка і моўныя прыёмы выканаўцаў, мастацкае і тэхнічнае аздабленне спектакля надаюць дзеі лёгкасць, весялосць, дасціпнасць. Музычнае афармленне кампазітара Алега Залётнага мякка падкрэслівае настрой герояў, сюжэтную лінію. Артысты актыўна іграюць «жывым» планам. А ў выніку гледач атрымлівае вялікае задавальненне ад іхняй зладжанай працы, ад харэаграфіі (балетмайстар — Лявон Кляцко), што дапамагае стварыць адметныя характары персанажаў п'есы.

Юрась СЦЯПАНАЎ.

г. Віцебск.

**МАМА, ПАЧЫТАЙ**

# Загадкі

***Пётр ІЛЬЮКЕВІЧ,***
***старшыня Клецкай рады ТБМ імя Ф. Скарыны***

* * *

*Трыста блізнюкоў-братоў,*
*Трыста чорненькіх галоў.*
*За дзень летні так стаміліся,*
*Што на адной падушцы спаць згадзіліся.*
(Сланечнік.)



* * *

*Жыве ў гаршку гліняным вожык*
*Без галавы, вачэй і ножак.*
*Балюча джаліць, гладзіць не даецца.*
*Скажыце, як жа ён завецца?*
(Кактус.)



* * *

*На жэрдцы палац узвышаецца,*
*У палацы саліст заліваецца.*
(Шпак.)



* * *

*У чырвонай шапцы*
*Стаіць певень на адной лапцы.*
(Мак.)



* * *

*Чырвоныя завушніцы*
*Прадаюць сініцы.*
(Рабіна.)

* * *

*Певень галасісты на століку стаіць,*
*Будзіць ён усіх, хто вельмі моцна спіць.*
(Будзільнік.)



* * *

*Пузаты Пракоп,*
*Медны лоб.*
*За сталом пануе,*
*Чаем нас частуе.*
(Самавар.)

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—49).*

Даўні зняў аўтамат над сваёй галавою і паклаў яго на падлогу, паміж ног. Гэта мне спадабалася: чалавек сканцэнтраваны на сваёй працы. Прат завёў матор.

— Выходзім,— сказаў я Джынксу.

Выйшаў Джынкс, за ім — я, і Даўні зачыніў дзверцы...

Мы наблізіліся да «Б'юіка». Джынкс затрымаўся крыху ззаду ад мяне. Я падышоў да шафёра. Гэта быў чалавек гадоў сарака. Па прыплясканым носе можна было меркаваць — былы баксёр. Ён зірнуў на мяне, але без усялякага падазрэння.

— Вы ведаеце, што вы сталі ў забароненым месцы? — запытаўся я ў яго.

— Ну і што?

— Гэта парушэнне правілаў руху.

— Ну і што? — паўтарыў ён.

Я падышоў да яго зусім блізка. Цяпер я мог зазірнуць у машыну. У мяне ажно сэрца закалацілася: на падлозе стаялі шэсць валізак, паўнюткіх грошай, там сама меней пятнаццаць штук. Я адразу падумаў, што на плячах у гэтага Ромэра не галава, а качан: пакідаць шэсць валізак пад аховаю аднаго чалавека, які бог ведае калі быў баксёрам, і адпраўляць трох на ахову адной. Крэцін!..

Я дастаў ручку і кніжку з квітанцыямі аб аплаце штрафа.

— Пакажыце мне вашы правы.

— У мяне іх няма.

— Што? Без правоў вы яшчэ спыняецеся ў такім месцы?

— Ну і што?

Прыйшлі трое іншых. Меншы, з валізкаю, заўважыў мяне толькі тады, як сеў. Гэтаму было гадоў трыццаць. Вочы ў яго адразу ж заблішчэлі шалам.

— Што вам ад нас трэба? — буркнуў ён.

— Імя гэтага чалавека,— кіўнуў я на шафёра.— Ён аштрафаваны.

— Валі адсюль, выжла,— сказаў ён.

Двое астатніх селі ззаду.

— Што адбываецца? — запытаўся адзін з іх, апускаючы бакавое шкло.

— З вашага шафёра двайны штраф: стаянка ў забароненым месцы, няма правоў...

— Нармальнае месца,— усміхнуўся меншы.

— Ведаеш, хлопец,— сказаў той, што апусціў шкло,— мы тут заўсёды становімся.

— Правілы руху...— пачаў я.

— Так, так...— усміхнуўся меншы.

— Мы, мілок, працуем на Ромэра,— сказаў паблажліва адзін з двух астатніх, што сядзелі ззаду.

— І гэта тачка Ромэра,— сказаў другі.

— Не ведаю я ніякага Ромэра,— сказаў я.— Я тут нядаўна ў паліцыі. І нават калі б і ведаў, гэта нічога не змяніла б.

— Дык вось што, хлопец,— пачаў той, што паблажліва заўважыў, на каго яны працуюць.— Вам падабаецца ваша праца? Вы даражыце вашым месцам? Тады адчальвайце.

Да нас павольна падышоў Джынкс.

— Панове не хочуць мяне разумець,— сказаў я яму.

— Не хочуць? — сказаў ён.— Ты ж ведаеш, што сказаў нам сяржант рабіць з такімі. Будзем грузіць...

— Ты што, хворы? — раззлаваўся меншы.— Хопіць выдурвацца. Едзем!

— Грузім іх! — сказаў я.

— Грузім,— пацвердзіў Джынкс.

— Ну і крэцін! — прашыпеў меншы.

— Маўчы, Сід,— папраў яго той, што гаварыў паблажлівым тонам.— Паслухай, жаўжык,— звярнуўся ён ужо да мяне: — Не рабі глупстваў. Нас адразу ж адпусцяць, як толькі ўбачаць, а табе дадуць выспятка, паглядзім...

Я зірнуў на Джынкса, усміхаючыся:

— Ці не казаў нам сяржант, што яны нам будуць усё гэта спяваць? — Потым адказаў гэтаму насмешніку: — Калі сяржант захоча вас адпусціць, няхай адпускае...

— Усё будзе ў парадку,— сказаў Сід.— Паехалі, Рушы.

Рушы ўключыў запальванне. За ўвесь гэты час, пасля таго, як трое селі ў машыну, ён не сказаў ні слова, ніводны мускул на яго́ным твары не ўздрыгнуў.

— Стоп! — літаральна гаўкнуў я.— Сядайце спераду,— сказаў я насмешніку.

Сід буркнуў нешта неразборлівае, але насмешнік абсек яго:

— Супакойся, Сід, не трэба рабіць драмы са штрафа.— І адразу ж перасеў уперад.

Мы з Джынксам селі ззаду, заціснуўшы паміж намі чацвёртага. Гэты, па ўсім было відаць, калісь блатаваў. Шпана тыповая. Гадоў трыццаці пяці.

— Ведаеце, дзе знаходзіцца цэнтральны камісарыят? — спытаўся я.

— У-у — прастагнаў Сід.— Вядома, ведаем!

— Едзьце туды.

— Уперд, Рушы,— сказаў насмешнік.

Машына скранулася з месца. Я зірнуў назад: Прат і Даўні рушылі таксама.

— Занадта вы ўжо абодва старанныя,— сказаў насмешнік.— Служакі.

— Мы выконваем загад, дружок,— адказаў я.

— Зараз табе дадуць загад! — са злосцю сказаў Сід.

— Калі вы сяржантаў сябра, усё будзе нармальна,— сказаў я.

— Сяржантаў сябра! — пагардліва ўсміхнуўся Сід.— Мы на сяржантаў часу не губляем. Сам Уэбэр глухне, калі Ромэр аддае яму загад...

— Маўчы, Сід,— перапыніў яго насмешнік.

Рушы даехаў да канца вуліцы і збочыў налева на першым скрыжаванні. Недзе ў сярэдзіне ўжо гэтай вуліцы, паміж трамвайнымі рэйкамі і тратуарам, стаялі вялікія шчыткі з надпісамі: «УВАГА! РАБОТЫ!» і «ПРАКЛАДКА КАНАЛІЗАЦЫІ! УВАГА!».

Рабочыя ўскрывалі маставую пнеўматычнымі малаткамі. Гармідар стаяў такі, што хоць вушы затыкай. Я зірнуў скосу на тыпа, што сядзеў паміж мною і Джынксам. Гэты быў самы спакойны з усіх: за ўвесь час ён толькі аднойчы раскрыў рот. Я адчуў, што ён пачаў ужо нешта падазраваць. У мяне ажно мурашкі прабеглі па скуры... Я крыху адсунуўся ад яго, дастаў з кішэні рэвальвер і, прыставіўшы пугач да ягонага жывата, націснуў на курок. У яго перакасіўся твар, галава ўпала на маё плячо, і я стрэліў яшчэ раз.

---

Спераду нічога не пачулі. Але раптам да нас павярнуўся Сід. Вочы ў яго акругліліся ад жаху.

— Рукі на патыліцу, неданоскі! — гаркнуў я.

Насмешнік адразу ж выканаў загад, а Сід паспрабаваў выцягнуць з кішэні рэвальвер. Я ўдарыў яго рукаяткаю па чэрапу.

— Рукі на патыліцу! — паўтарыў я.

Прастагнаўшы, ён зрабіў тое ж самае.

— Трымай рукі на рулі,— загадаў шафёру Джынкс.

Я адштурхнуў толькі што падкошанага тыпа на падлогу. Пнеўматычныя малаткі па-ранейшаму стваралі жудасны гармідар. Я стрэліў у інкасатара трэці раз — у скроню і адштурхнуў нагою далей ад сябе, каб не запэцкаць сабе чаравікі ягонай крывёю.

— Калі вы думаеце, што гэта вам проста так пройдзе...— пачаў Сід.

— Я ўжо чуў гэтую песню. Не ад вас адных,— адказаў я і націснуў на курок...

Мы сапітурхнулі «Б'юік» з нябожчыкамі і пустымі валізкамі ў кар'ер, і неўзабаве вада праглынула яго...

Слядоў крыві нідзе не засталося, сведкаў не было.

І шуму ніякага не было. Хіба што калі Прата ванітавала...

## VI

Мы палічылі грошы за зачыненымі дзвярыма уэбэраўскага кабінета ў гарадской паліцыі — Уэбэр, Рыс, Прат, Даўні, Джынкс і я. Усе лічылі.

Грошы раздзялілі на тры часткі — Уэбэру з ягонымі выжламі, мне (я мусіў размічыцца з Джынксам і Мэйсанам) і Мандану — 17 100 долараў кожная частка.

Я адклаў са сваіх грошай пяцьсот долараў Мэйсану — дзвесце пазыкі і трыста за грузавік, якім я так і не скарыстаўся. Падумаўшы, я вырашыў, што Мэйсану гэтага будзе дастаткова. Астатнія бабкі загарнуў у газету і аддаў Джынксу, а Манданаву частку, таксама загорнутую ў газету, пакінуў сабе.

— Падкінеш мяне да Мандана, а потым адвязеш грошы дадому,— сказаў я Джынксу.

— Усё ў парадку? — спытаўся Мандан.

— Вядома. Нават вельмі,— паляпаў я рукою па пакеце.— Угадайце, колькі...

— Гм... не ведаю... дваццаць тысяч.

Я засмяяўся:

— Адна толькі вашая частка — амаль столькі ж. А ўсё разам — пяцьдзесят з лішкам штук.

— Нішто сабе! — усклікнуў Мандан.

— Вось вам семнаццаць сто,— працягнуў я яму пакет.

— Неверагодна!

Ён разгарнуў пакет і задаволена паглядзеў на грошы...

— А файную ідэю падкінуў Рыс — з гэтым кар'ерам. Я, мабыць, памыляўся на ягоны конт. Трэба будзе пасадзіць яго на месца Уэбэра.

— Няхай усё ідзе само сабою, як ідзе...

— А я не думаю ўсё мяняць адразу ж... Неяк потым. Я не збіраюся ўгаворваць Уэбэра кожнага разу, як што-небудзь задумаю...

— Зараз, калі вы паказалі, на што здатны, ім будзе лягчэй кіраваць.

— Паглядзім,— сказаў я.— Не хочаце праехацца да мяне? Я абяцаў Холідэй звадзіць яе кудынебудзь, калі напад будзе ўдалы... Пап'ём шампанскага — традыцыйнага напою перамоўцаў.

— Вы яго заслужылі,— цёпла сказаў ён.— Але сёння я не магу — выбачайце.

— Што ж, тады да сустрэчы...

Калі я адчыніў дзверы кватэры, Холідэй і Джынкс сядзелі на канапе. Паміж імі былі раскладзеныя на кучкі грошы.

— Што ў цябе ў пакеце? — запыталася яна.

— Шампанскае.

— Ніколі ў жыцці не бачыла такой вялікай бутэлькі.

— Трохлітровік,— адказаў я.

Я абняў яе і пацалаваў у вусны. Яна прыціснулася да мяне, і наш пацалунак быў вельмі глыбокі. Джынкс глядзеў на нас змрочна...

— Ты ведаеш, колькі выходзіць на кожнага? — запыталася яна.

— Цьмяна.

— Цьмяна? Раскажы каму іншаму! — фыркнуў Джынкс.— Ён падлічыў усё да цэнта.

— Кінь, Джынкс! А ведаеш, Холідэй, гэта толькі пачатак.

Я зноў пацалаваў яе, яшчэ больш страсна, каб раззлаваць Джынкса. Вось у чым, што датычыць Холідэй, была розніца паміж намі: я цалаваў яе ў адкрытую, ён — употайкі...

Я выйшаў у краму непадалёк купіць лёду. Холідэй была ўжо адна.

— Джынкс пайшоў? — запытаўся я.

— Але.

— Цудоўна! Мы ўдваіх, толькі ўдваіх...

Я раскалоў на кухні лёд.

— Колькі трэба часу, каб шампанскае астыла? — спыталася Холідэй.

— Можа, гадзіна пройдзе, але якая нам розніца? Няхай усё ідзе, як ідзе... А табе не здаецца, што гэта было б цудоўна — пачынаць кожную ноч з бутэлькі шампанскага і заканчваць яе бутэлькаю каньяку?

— Можа, так і будзе,— сказала яна.— Хто яго ведае...

— Іду ў заклад, што менавіта так і будзе. Стаўлю сукенку супраць гузіка ад кашулі. Я раскруцуся. Заўтра мы купім скрыню шампанскага і скрыню каньяку. Купім шмоткі і знойдзем дзве прыстойныя кватэры, можа, пашанцуе, дык здымем тады ў адным доме...

— Дзве кватэры? — здзівілася яна.

— Але.

Твар у яе пацямнеў.

— Цяпер я ўсё разумею,— сказала яна.— А то ўсё думала, чаму ты так дзіўна сябе паводзіш...

— Дзіўна?

— А як інакш расцаніць тваё вуркатанне закаханага маладзёна?.. Ці не збіраешся ты мяне кінуць?

— З чаго гэта ты ўзяла?

— Дзве кватэры...

— Ах, вось што! Дык тут, мая мілая, няма чаго станавіцца на дыбкі. У чалавека павінна быць і сваё асабістае жыццё. Бывае, мне хочацца пабыць у сябе дома.

— А тут ты не ў сябе дома?

— Прашу цябе, адкінь усе падазрэнні. Павер мне: табе няма з-за чаго раўнаваць...

— Я дапамагла табе ўцячы з турмы, а ты адразу ж, як толькі займеў бабкі, кідаеш мяне.

— Шкада, што я табе гэта сказаў. Забудзь усё гэта. Уяві сабе, што я не казаў нічога.

— Раз ты гэтага хацеў, тым горш для цябе! — прашыпела яна і, бы вар'ятка, выскачыла з кухні.

Я выйшаў услед за ёю.

Яна забралася на канапу, павярнулася да мяне спіною і пачала лічыць грошы...

Я прысеў побач з ёю і абняў яе за плечы:

— Што ты збіраешся рабіць? — спытаўся я. Яна нават не азірнулася.

— Пяць тысяч сто долараў — мае. Я не вазьму ніводнага лішняга цэнта,— адказала яна.

— Што з табою?

— Перш, чым ты змыешся, я хачу забраць сваё.

— Кончыш ты нарэшце вылузвацца кожную хвілю ці не?! — ускрыкнуў я.— Я заўсёды лічыў сябе чалавекам нервовым, але побач з табою ці Джынксам я проста тыповы сангвінік. Сёння мы гуляем, ты чуеш?

Я зняў тэлефонную трубку.

— Можаце звязаць мяне з рэстарацыяй «Ружа пяскоў»?

Холідэй усё лічыла грошы.

— Рэстарацыя «Ружа пяскоў»,— адказала мне нарэшце жанчына.

— Можаце даць мне залу, дзе грае аркестр Хэлстэда?

— Залу Архідэяў? Добра.

— Зала Архідэяў,— пачуў я ўжо мужчынскі голас.

— Я хацеў бы перагаварыць з метрдатэлем.

— Я вас слухаю, пан.

— Як вас зваць? — спытаўся я.

— Джордж, пан.

— Джордж,— сказаў я,— з вамі гаворыць Поль Мэрфі. Магу я заказаць столік на дваіх, на вечар, на палову дзевятай?

— Вядома, пан Мэрфі.

— Я хацеў бы столік у кабіне над танцавальным кругам. Пакінеце яго мне?

*(Працяг будзе).*

# Майстар



Такіх людзей, як Рыгор Дзінін, пісьменнік Васіль Шукшын трапна назваў «чудзікамі». Знешне запаволены, Рыгор зусім мяняецца, калі возьме ў рукі скрыпку ці віяланчэль. Як добры доктар, ён знаходзіць хворыя кропкі ў музычным інструменце, каб лёгкімі скрабкамі па дэцы вярнуць гуку чысціню і звонкасць.

Талент у Рыгора, як кажуць, ад Бога. На Захадзе ён мог бы стаць чалавекам вельмі заможным. Тым больш, што дзеля гэтага ёсць і дадатковыя ўмовы. Бацька Рыгора — пан Польд, былы савецкі вайсковапалонны, а зараз — кансультант знакамітых фірм у Германіі. Час ад часу Рыгор бывае ў бацькі, дзе таксама настройвае інструменты, але плату бярэ сімвалічную. Затым вяртаецца ў родны Менск, каб зноў займацца тут любімай справай.

**На здымку: Рыгор Аляксандравіч Дзінін.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ. Белінфарм.**

*Ад роднае зямлі*

***...Голас пастуховай трубы абуджае наваколле. Страсаюць ранішні сон, адгукаючца травы і краскі, каласы ў полі. І раптам, бы сноп сонечных промняў, успыхвае такая агнявістая музыка, што ўсе дзець на месцы немагчыма, так і хочацца пусціцца ў скокі...***

# Адчыненая скарбонка

ТАКОЕ ўражанне стварае з першых жа хвілін з'яўлення на сцэне знакаміты на Беларусі і далёка за яе межамі фальклорны ансамбль «Крупіцкія музыкі». І на працягу канцэрта, які ўяўляе сабой каларытнае, незабыўнае відовішча, гэтае ўражанне будзе толькі ўзмацняцца, складвацца ў багаты, зззяючы разнаколернымі фарбамі вянок беларускіх народных мелодый, песень, танцаў, якія чаруюць і вабяць непаўторнай прыгажосцю.

Вы хацелі б пазнаёміцца з творцамі гэтага дзіва? Калі ласка, рады вам дапамагчы. Сваю біяграфію ансамбль «Крупіцкія музыкі» адлічвае з 1982 года, а назву бярэ ад роднай вёскі Крупіца, што непадалёк ад Менска. Калісьці тут, на беразе Пціча, стаяў млын, дзе сяляне выраблялі крупы. Іх жа нашчадкі бяруць з крынічных вытокаў бацькоўскай зямлі скарб народнага мастацтва, збіраючы — крупінку да крупінкі — і адраджаючы ў новай красе жамчужыны музычнай і харэаграфічнай фальклорнай спадчыны.

І першы з гэтых таленавітых самародкаў, апантаных служыцеляў народнай песні — стваральнік і нязменны мастацкі кіраўнік ансамбля, зараз заслужаны работнік культуры Беларусі Уладзімір Гром. Збіраючы вакол сябе сяброў-аднадумцаў, ён аб'ездзіў і абхадзіў шмат вёсак і вёсачак у розных кутках Беларусі, запісваючы ад старажылаў даўнія песні і найгрышы, вяртаючы з небыцця ледзь не страчаныя нацыянальныя музычныя інструменты. І яны, ацёртыя ад пылу вякоў, загучалі на поўны голас, кранаючы сэрцы сучаснікаў, абуджаючы ў іх захапленне і гонар таленавітасцю нашых продкаў і іх сённяшніх прадаўжальнікаў.

Фальклор у «Крупіцкіх музыкаў» — не мёртвая музейная каштоўнасць. Ён сагрэты жывым, гарачым пачуццём выканаўцаў, іх паэтычнай адухоўленасцю і фантазіяй, непрыхаванай улюбёнасцю ў народнае мастацтва. Праз багацце фальклорных матываў і ўзораў яны імкнуцца данесці да сучаснага гледача згадкі пра гісторыю і культуру сваёй старажытнай краіны, даць адчуванне нацыянальнага характару беларусаў. У кожным нумары з незвычайна багатага рэпертуару фальклорнага ансамбля (а яго хапае не на адну, не на дзве, а на мноства праграм!) жыве душа народа, які праз шматвяковыя гістарычныя выпрабаванні і трывогі сучаснага жыцця не згубіў здольнасці адчуваць і ствараць прыгажосць, спадзявацца і марыць, радавацца і радаваць іншых.

...Заўзята спаборнічаюць між сабой, рассыпаючы то заліхвацкія, то задумлівыя мелодыі, здатныя музыкі. У іх руках не тое што спяваць — скачуць, смяюцца, гарэзяць гармонікі і скрыпкі, бубны і цымбалы. Свой голас у аркестры набылі пакуль малавядомыя шырокаму слухачу старажытныя басэтля, колавая ліра, гудок, дуда. Заліваецца звонкай трэллю «салавей». А што вырабляюць звычайная жытнёвая саломінка ці зусім ужо празаічная рэч з хатняга ўжытку — піла! Пачынальнік ансамбля, віртуоз Зміцрок Кудзін, які вучыўся іграць на скрыпцы ў старых вясковых музыкаў, і яговыя маладыя сябры ствараюць на сцэне сапраўдны цуд.

Такім жа шчодрым дарам валодаюць і крупіцкія спевакі, што захоўваюць глыбіню і чысціню роднай песні. Чаго варты толькі адзін Алесь Працкевіч — старэйшы саліст і зорка першай велічыні ў сузор'і яркіх самародкаў. Яго артыстызм, абаяльнасць, адкрытасць, юначы імпэт адразу ж заваёўваюць агульныя сімпатыі. Зачароўвае яркасцю і пранікнёнасцю выканання вакальны дуэт Марыны Ламакі і Людмілы Пальчык. Здзіўляе багаццем вобразнай палітры танцавальная група на чале з балетмайстрам, заслужаным работнікам культуры рэспублікі Георгіем Чорным. Віхурную «Крупіцкую польку» змяняе шчымліва-лірычны танец «Жураўель», жартаўлівая «Пава» ці заснаваная на традыцыях старадаўніх абрадаў і свят сцэнка «Люстэрка».

Павышэнню мастацка-выканаўчага ўзроўню фальклорнага калектыву садзейнічае творчая дружба з вядучымі спецыялістамі і майстрамі культуры рэспублікі. Вясковыя артысты з удзячнасцю гавораць пра сваіх надзейных сяброў і дарадцаў — музычнага кіраўніка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча Мікалая Сірату, прафесара Беларускай музычнай акадэміі Іну Казіну, мастака па касцюму Галіну Юрэвіч. Самі ж яны — музыкі, спевакі, танцоры — не прафесіяналы, а аматары сцэны, людзі самых розных прафесій: настаўнікі і медыкі, культработнікі і студэнты, аб'яднаныя любоўю да народнага мастацтва, прагай творчасці, высокім натхненнем.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што артыстаў з беларускай вёскі ведаюць ледзь не па ўсёй Еўропе: Украіна, Літва, Польшча, Францыя, Югаславія, Германія, Галандыя, Італія... І паўсюль — несумненны поспех.

**С. КЛІМЕНЦЕНКА.**

# Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі:** 5. Развёртка (в математике). 7. Кубышка, копилка. 10. Костёр (злаковый). 11. Расцвет. 12. Нагул (скота). 17. Туча. 18. Лепта. 20. Баня. 21. Пища, съестное. 22. Строй (государственный). 26. Лакомка. 27. Обруч. 28. Жажда. 31. Крыльцо. 33. Стрекотня. 34. Косовище. 35. Свод. 36. Искусство.

**Па вертыкалі:** 1. Метель. Глаз. 3. Кувшин. 4. Сквозняк. 6. Шаг. 8. Зов. 9. Скобель. 13. Подсолнух. 14. Молодость. 15. Заправка. 16. Опушка леса. 18. Внимание. 19. Даль. 23. Беседка. 24. Принуждение. 25. Красота, прелесть. 29. Состояние, положение. 30. Вес. 32. Покрывало на кровать. 34. Помазок, мазилка.

**Падрыхтаваў Віктар СУХАРАЎ.**
г. п. Бялынічы.

*Афарызмы*

***Аляксандр БАЛЯК***

*Кароль мёртвы, але гэтага сказаць яму ніхто не асмельваецца.*

*Я вельмі заклапочаны. А чым вы займаецеся?*

*Ваша думка — не марксісцкая, але можа падцягнуцца.*

*Я за дыялог. І кропка!*

*Які крызіс з'яўляецца найважнейшай фазай нашага развіцця?*

*Адчуваю згрызоты сумлення. Значыць, унутраны вораг не дрэмле.*

*Цяжкасці прайшлі б незаўважанымі, каб іх вораг не спамянуў.*

*Вынікі выбараў вядомыя загадзя. Уладзе няма чаго хавацца ад народа.*

*Трэба аб'ектыўна добра пісаць пра нас.*

*Нашыя нястачы не прыходзяць неўспадзеў. Мы добра арганізаванае грамадства.*

*Цалкам прысвяціў сябе іншым. Зусім не валодаў сам сабою.*

*Ну і здольны чалавек! Яшчэ не паспеў стаць на свае ногі, а на ім ужо ездзяць.*

***Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.***

# Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 43

**Па гарызанталі:** 5. Карункі. 6. Покрыва. 9. Таемнасць. 12. Смага. 13. Агляд. 14. Крама. 17. Нерат. 18. Стома. 19. Дзіва. 20. Усюды. 25. Багна. 26. Касач. 27. Скокі. 30. Сузіранне. 31. Хітрыкі. 32. Адценне.

**Па вертыкалі:** 1. Радзіма. 2. Склад. 3. Жоўць. 4. Свядомы. 7. Смага. 8. Камяк. 10. Агледзіны. 11. Грамадскі. 15. Барва. 16. Атоса. 21. Сакавік. 22. Цалік. 23. Хабар. 24. Скураны. 28. Чутка. 29. Гняды.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
**Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Падпісана ў друк 14.12.1992 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
**Наклад 7071 паасобнік. Зак. 1208.** Індэкс 63865.